# Чацвёртая гадавіна арышту Андрэя Клімава

11 лютага, у чацвёртую гадавіну арышту вядомага прадпрымальніка, дэпутата Вярхоўнага Савету XIII склікання Андрэя Клімава, у Мінску адбылася акцыя «Ланцуг неабыякавых людзей». Паўгадзінная акцыя, арганізаваная Аб'яднанай грамадзянскай партыяй, прайшла побач з калоніяй на вуліцы Кальварыйскай, дзе адбывае пакаранне Андрэй Клімаў. 50 чалавек, выстраіўшыся ланцугом, трымалі яго партрэты. У мерапрыемстве ўдзельнічалі члены АГП, іншых палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, сваякі асуджанага. Затрыманых не было.

У інтэрв'ю БелаПАНу маці Андрэя Клімава Ала Клімава сказала, што не звярталася да кіраўніцтва калоніі, каб дабіцца датэрміновага вызвалення сына: «Я лічу Рэспубліку Беларусь вялікай калоніяй... Уся надзея ў мяне на праваабарончыя арганізацыі, міжнародную супольнасць, разважных людзей, што яны будуць садзейнічаць выкананню заканадаўства ў дачыненні да Андрэя».

Жонка Клімава Таццяна Леановіч (Клімава) нагадала, што яе муж адбыў ужо дзве трэці тэрміну пакарання. Цяпер у адпаведнасці з Папраўча-працоўным кодэксам зняволенаму можна змяніць від пакарання, напрыклад, накіраваць на папраўча-працоўныя работы або ў калонію-пасяленне. «Але хіба гэта можа лічыцца саступкай патрабаванням міжнароднай супольнасці? Толькі зменаю віду пакарання ў адпаведнасці з заканадаўствам, і не больш», – сказала Таццяна Леановіч (Клімава). Старшыня АГП Анатоль Лябедзька гаворыць, што кампанія «Хочам ведаць праўду!» у дачыненні да Андрэя Клімава скончыцца толькі тады, «калі будзе прынята судовае рашэнне аб яго невінаватасці, прысуд у дачыненні да яго будзе прызнаны палітычна матываваным і будзе сумленна сказана, што больш за 4 гады ён правёў у турме не па волі закону, а па рашэнні асобаў, якія кіруюць краінай».

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# У цэнтры Віцебска забілі прадпрымальніка

На ціхай вуліцы Багдана Хмяльніцкага, якая знаходзіцца амаль у цэнтры Віцебска, у некалькіх сотнях метраў ад будынкаў Віцебскага аблвыканкама, абласнога суда і пракуратуры, прыкладна а 10 раніцы 8 лютага адбылося замоўленае забойства. Ва ўласным пад'ездзе быў забіты вядомы прадпрымальнік Алег Зільберман. Паводле таго, як было ажыццёўленае забойства, мяркуецца, што дзейнічаў прафесіянал. Ён зрабіў 14 стрэлаў з аўтамата, адзін з іх быў «кантрольны». Верхнюю вопратку і акуляры кілер пакінуў на месцы забойства.

Алег Зільберман быў заняты ў расейскім будаўнічым бізнесе.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

# Прысяжных засядацеляў пакуль не будзе

Беларусь «ні арганізацыйна, ні прафесійна» не гатова да ўвядзення інстытуту прысяжных засядацеляў. Такое меркаванне выказаў старшыня Вярхоўнага суду Беларусі Валянцін Сукала. Прычым, паводле яго слоў, да гэтага не гатовы не толькі суддзі, але і пракуроры, і адвакаты, якія «ў рамках такога вядзення працэсу павінны быць больш высокакваліфікаванымі».

Акрамя таго, лічыць Сукала, самі судовыя памяшканні не прыстасаваны да работы вялікай калегіі прысяжных. Трэцяя прычына – нязначная колькасць спраў, якія павінны разглядацца ў перспектыве з удзелам прысяжных засядацеляў. Як адзначыў старшыня Вярхоўнага суду, згодна з канцэпцыяй рэфармавання сістэмы беларускага правасуддзя, прысяжныя засядацелі будуць удзельнічаць у разглядзе 2-5 працэнтаў крымінальных спраў. Таму Сукала не прадбачыць «сур'ёзнага ўплыву» суду прысяжных на якасць беларускага правасуддзя. Ён таксама нагадаў, што ўвядзенне суду прысяжных было закладзена ў канцэпцыі рэфармавання судовай сістэмы Беларусі 1992 году, але першы з'езд суддзяў (1997 год) «аднязначна выказаўся за тое, што гэтая форма правасуддзя пакуль не актуальная для Беларусі». На падставе рашэнняў гэтага з'езду былі ўнесены адпаведныя змяненні ў канцэпцыю судова-прававой рэформы. Паводле слоў Сукалы, на тэрыторыі былога СССР суд прысяжных засядацеляў уведзены толькі ў 9 рэгіёнах Расійскай Федэрацыі.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

# Лекі гуртам

Камітэт па ахове здароўя Мінгарвыканкама і прадпрыемства «Белфармацэя» дамовіліся, што паліклінікі і бальніцы сталіцы будуць цяпер атрымліваць лекі па гуртавых коштах. Гэта зроблена дзеля таго, каб даць фінансавую палёгку гэтым установам. Закупка лекаў па гуртавых коштах дазволіць ім знізіць выдаткі на медычныя прэпараты прыкладна на 15%. Сёлета такія дамовы мяркуецца заключыць паміж «Белфармацэяй» і медустановамі па ўсёй краіне. Але пры гэтым наўрад ці тое адаб'ецца на тратах беларусаў – лекі не патаннеюць.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# У Віскулях новыя кошты

Своеасаблівы загон для людзей упоруч з вальерамі для дзікіх жывёлаў адгароджаны ў Белавежскай пушчы. І калі раней наведвальнікі Нацыянальнага парку вольныя былі ў сваім выбары, з якой дыстанцыі назіраць за зубрам, дзікам ці ваўком, то цяпер дзеці і дарослыя мусяць «маршыраваць» у вузкім калідоры між сеткай з металу і дошкамі плоту. Нязручна ў лесе экскурсантам, затое стала магчымым браць з іх аплату.

Яшчэ адна зона, але недаступная для шараговых аматараў прыроды нават за грошы, утворана побач з рэзідэнцыяй у Віскулях. Нядаўна тут зрабілі рамонт у крыле будынку з пакоямі для аховы і прыслугі. Так званыя шматмесныя нумары разгароджаны на люксавыя, і іх пачалі здаваць для начлегу па асабістым дазволе дырэктара Мікалая Бамбізы.

**Галіна БАРАВАЯ**

# «Законнікаў» кінулі на пасяўную

Не перастаюць здзіўляць перамяшчэнні чыноўнікаў у брэсцкай абласной «вертыкалі». На выканаўчыя пасады на перыферыі адпраўленыя былы старшыня Камітэту дзяржкантролю ў рэгіёне Канстанцін Сіневіч і былы начальнік упраўлення арганізацыйна-кадравай работы аблвыканкама Аляксандр Каляда. Хаця ні адзін з іх не валодае сельскагаспадарчай адукацыяй, але пасяўную кампанію Кобрынскі і Жабінкаўскі райвыканкамы правядуць з гэтымі новымі старшынямі. Цікава, што сярод апаратчыкаў розных абласных кантораў і ведамстваў адстаўнікі мелі рэпутацыю строгіх «законнікаў», бо па выніках кантрольных праверак больш было пакараных, чым памілаваных. Зараз, у выніку кадравых пературбацый, у ролі правяраючых на вотчыне сваіх крыўдзіцеляў ахвочыя пабываць вельмі многія дыпламаваныя аграномы, заатэхнікі і аграінжынеры.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

# Крымінал на доме

Збудавала дом, дзе жыве старшыня Брэсцкага аблвыканкама, адкрытае акцыянернае таварыства «Блік», працу якога курыраваў былы намеснік старшыні Брэсцкага гарвыканкама Мікалай Назарук. Ён быў звольнены, а зараз абласная пракуратура ўзбудзіла супраць М.Назарука крымінальную справу. Гарвыканкамаўскі чыноўнік даваў дазвол на размяшчэнне офісаў, крамаў і іншых памяшканняў у жыллёвых навабудоўлях без спагнання за гэта ў бюджэт пэўных грашовых выплатаў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# 250 мільёнаў даляраў ад Сусветнага банку

На працягу бліжэйшых трох гадоў у рамках праграм супрацоўніцтва Сусветны банк мае выдзеліць Беларусі да 250 млн. даляраў ЗША. Аб гэтым заявіў у інтэрв'ю Беларускаму тэлебачанню кіраўнік прадстаўніцтва СБ у Мінску Сяргей Кулік.

«У нас на сённяшні дзень два варыянты супрацоўніцтва. Асноўны, які мы ажыццяўляем цяпер, і варыянт пашыранага крэдытавання. Асноўны варыянт прадугледжвае амаль 140 млн. даляраў за тры гады. «Высокі» варыянт супрацоўніцтва мае на ўвазе 250 млн. даляраў за трохгадовы перыяд нашага магчымага супрацоўніцтва. Тут і экалогія, і медыцына, і сацыяльныя праекты, і развіццё прадпрымальніцтва ў Беларусі.

Асобны блок праблем – садзейнічанне ўраду ў пераадоленні наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Гэта новая для нас тэма, мы яе пачалі распрацоўваць літаральна год таму, абапіраючыся на дапамогу дзяржаўных інстытутаў у Беларусі, недзяржаўных арганізацый, што дазваляюць нам зразумець, што ж робіцца ў гэтай галіне», – паведаміў Кулік.

Паводле слоў кіраўніка прадстаўніцтва СБ, каб выйсці на «верхні ўзровень» супрацоўніцтва, Беларусі неабходна лібералізаваць эканамічную дзейнасць і ўмовы існавання бізнесу».

«Летась Беларусь ужо ажыццяўляла праграму маніторынгу з Міжнародным валютным фондам. Нам бы хацелася, каб яна перайшла на больш якасны ўзровень стандартных, традыцыйных інструментаў МВФ. Без макрастабільнасці вельмі цяжка будзе ўкараняцца ў сумежныя галіны пашыранага крэдытавання. Размова ідзе аб працягу нашага дыялога ў справе ўдасканалення сацыяльнай дапамогі, сацыяльнай абароны ў Беларусі», – сказаў Кулік.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# З Гомеля да Калінінграду

З траўня 2002 году «Гомельавія» пачне рабіць рэгулярныя рэйсы да Калінінграду. Лятаць у гэты расійскі рэгіён тры разы на тыдзень па панядзелках, серадах і пятніцах будуць самалёты АН-24, разлічаныя на 48 пасажыраў.

Якія будуць кошты на гэты рэйс, пакуль не вызначана.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Затрыманая банда цыганоў

Супрацоўнікі брэсцкай міліцыі ў канцы мінулага тыдня затрымалі групу цыганоў, якія падазраюцца ва ўчыненні серыі крадзяжоў на тэрыторыі Беларусі.

Аўтамабілі «Жыгулі» і «Таўрыя», на якіх рухаліся цыганы, былі затрыманыя ў Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці. У машынах знойдзена мноства прадметаў хатняга ўжытку, адзенне. У цыган канфіскаваныя 8 тысяч даляраў ЗША і каля 70 залатых вырабаў, прычым большасць купюр і аздобаў былі старанна схаваныя. На момант затрымання дзевяць чалавек, ураджэнцы Днепрапятроўскай вобласці Украіны, падазраваліся ва ўчыненні крадзяжоў у Брэсцкай вобласці. Яны заходзілі ў кватэры, карыстаючыся даверлівасцю гаспадароў, многія з якіх былі пенсіянерамі. Узбуджана крымінальная справа. Следства праводзіць Упраўленне следчага камітэта МУС па Брэсцкай вобласці. Усіх пацярпелых, а таксама тых, хто валодае інфармацыяй аб падазроных, просяць паведамляць у міліцыю.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# Машыначытальныя пасведчанні асобы

У Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі распрацавана унікальная камп'ютэрная тэхналогія абароны тавараў і дакументаў ад фальсіфікацыі і незаконнага абароту.

Гэтая тэхналогія з'яўляецца асновай для стварэння машыначытальных індывідуальных картак (пасведчанняў асобы), якія здольныя замяніць адначасова некалькі дакументаў: вадзіцельскія правы, карткі сацыяльнага страхавання, індывідуальныя медыцынскія карты.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

**НАША СТАЛІЦА**



Фота Ул.ШЛАПАКА

Мінск. Будынак управы метрапалітэна на плошчы Незалежнасці. Падсвятленне дамоў нібыта пераносіць менчукоў у Парыж.

# Гандаль выбуховымі рэчывамі

У Слаўгарадскім раёне затрыманыя два мясцовыя жыхары, якія спрабавалі прадаць выбуховае рэчыва. Затрыманне на тэрыторыі калгаса «Кастрычнік» правялі супрацоўнікі РАУС і ўпраўлення Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй пры МУС па Магілёўскай вобласці. Адзін з затрыманых – 35-гадовы работнік калгаса. Пры дагледзе ў яго канфіскавана больш за пяць кілаграмаў тратылу. Падчас вобыску ў дамах затрыманых знойдзены патроны да пісталета ТТ і малакаліберный вінтоўкі, а таксама незарэгістраваная стрэльба і патроны да яе.

**Канстанцін УВАРАЎ**

# Цяжкасці ў сельскай гаспадарцы

Складанай застаецца сітуацыя ў сельскай гаспадарцы Брэсцкай вобласці. Паводле звестак Брэсцкага абласнога ўпраўлення статыстыкі, у студзені вытворчасць мяса на сельгаспрадпрыемствах знізілася на 17 працэнтаў, ці на 2,1 тысячы тон.

Упалі сярэднясутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы. На 14,1 тысячы паменшылася пагалоўе буйной рагатай жывёлы, на 1,6 тысячы – пагалоўе кароў, на 4,4 тысячы – свіней. На 19 працэнтаў павялічыўся падзеж свінняў. Менш, чым у студзені мінулага года, закуплена жывёлы і птушкі ў насельніцтва.

Паводле інфармацыі ўпраўлення Камітэта дзяржкантролю (КДК) па Брэсцкай вобласці, у калгасах і саўгасах маюцца выпадкі скажэння статыстычнай справаздачнасці. Як паведамілі БелаПАН у КДК, «выяўленыя факты прыпісак жывёл з мэтай стварэння паказнога дабрабыту ў жывёлагадоўчай галіне, устаноўленыя факты завышэння або заніжэння справаздачных звестак па надоях і аб'ёмах рэалізацыі малака».

Складаная сітуацыя, як лічаць у камітэце, склалася з улікам і расходаваннем кармоў. Падчас праверак былі выяўлены факты завышэння наяўнасці кармоў, іх прыпіскі і, наадварот, няўліку. Праверкай устаноўлены факты нямэтавага выкарыстання і неналежнага захоўвання ўгнаення ў гаспадарках шэрагу раёнаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

 



# Бязглуздыя шоу замест класікі

## *Дзеячы культуры выказваюць нязгоду з новымі тэндэнцыямі на беларускім радыё*

Група вядомых дзеячаў музыкі і тэатру Беларусі звярнулася да міністра інфармацыі краіны Міхаіла Падгайнага з просьбай дапамагчы выратаваць нацыянальны радыёэфір «ад поўнага разбурэння». Як зазначаецца ў звароце, «эфір змяніўся да непазнавальнасці»: не стала «цікавых, добра прадуманых і грунтоўна зробленых музычных праграм «Зорны дождж», «Тэрра Гармонія», «Адвечная магія музыкі», «У свеце аперэты», «Тэатральны дывертысмент», «Музычныя скрыжалі», «Музычная пошта», дзіцячых праграм «Хатнічак», «Сцежка ў дауніну», «Дыялог над разгорнутай кнігай», «Хто ў доме гаспадар», «Сам сабе доктар», «Урокі жыцця», праграм літаратурнай рэдакцыі «Акно ў свет», «Невычэрпная скарбніца слова», «Неўміручае і надзённае». Іх месца, гаворыцца ў звароце, занялі такія «бязглуздыя і бессэнсоўныя шоу», як «Адкрытая пляцоўка», «Міксутра», «Радыёрынг», «Зебра», «Кампактная музыка», «Гарачы шакалад», «Чалавек-экстрым», якія ідуць у жывым эфіры, прычым па-руску, «прымітыўныя па форме і невыразныя па сэнсу», дзе ў якасці музычнага фону выкарыстоўваюцца «танныя англаруская музычная кампазіцыі». З эфіру «амаль цалкам зніклі класічная музыка, мастацкае слова і беларуская песня, перасталі гучаць радыёспектаклі, фондавыя перадачы, тэматычныя канцэрты».

«Сітуацыю, пры якой нацыянальнае радыё скочваецца да ўзроўню маладзёжнай тусоўкі і перастае выконваць функцыі сацыяльнага інстытуту, – гаворыцца ў канцы звароту, – мы лічым зняважлівай для беларускага народу і небяспечнай для дзяржавы і яе культуры. Зняважлівым лічым і тое, што ў канцы эфірнага часу нацыянальнае радыё перастала трансляваць беларускі гімн! Ён, відаць, таксама «не ўпісаўся» ў новую канцэпцыю вяшчання».

Зварот да міністра падпісалі некалькі дзесяткаў музычных і тэатральных дзеячаў. Сярод іх – старэйшына беларускай музыкі кампазітар Анатоль Багатыроў, народныя артысты рэспублікі Генадзь Аўсянікаў, Лілія Давідовіч, Віктар Мазур, Арнольд Памазан, заслужаныя артысты рэспублікі Зоя Белахвосцікава, Аляксандр Падабед, Георгій Маляўскі, Герман Казлоў, Дзіна Іванова, прафесар Беларускай акадэміі музыкі Тамара Якіменка, кампазітар Галіна Гарэлава.

**Мікалай ГРАЧУХА**

# Гасі святло!

Пастановай Міністэрства эканомікі Беларусі з 8 лютага на 25% павялічаны тарыфы на электраэнергію для насельніцтва.

Цяпер 1 кілават-гадзіна для гарадскога насельніцтва, якое жыве ў дамах з газавымі плітамі, каштуе 24 рублі (раней – 19,2). Столькі ж каштуе электраэнергія, якая адпускаецца бальнічным установам Міністэрства аховы здароўя. Кошт электраэнергіі для вяскоўцаў і гараджан, якія жывуць у дамах з электрычнымі плітамі, павышаны з 13,9 да 17,4 рубля.

Другой пастановай Мінэканомікі тарыф на цеплавую энергію для насельніцтва павышаны на 20% – з 6.269,9 да 7.523,9 рубля за 1 гігакалорыю.

Папярэдняе павышэнне тарыфаў на электраэнергію для насельніцтва адбылося 15 лістапада 2001 году. У цэлым за мінулы год электраэнергія падаражэла на 33,3 %.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Польшча абяцае ўвесці шматгадовыя візы

Падчас свайго візіту ў Беласток у панядзелак 11 лютага міністр замежных справаў Польшчы Уладзімеж Цімашэвіч заявіў: каб эфектыўна ахоўваць усходнюю мяжу Польшчы, якая неўзабаве мае стаць мяжою Еўрапейскага Саюзу, спатрэбіцца ўвесці візы для прыезджых з Расіі і Беларусі. Аднак польскі міністр запэўнівае, што ягоны ўрад збіраецца правесці гэтую аперацыю так, каб «віды візаў і працэдуры іх выдачы як мага менш абцяжвалі жыццё простым людзям, якія хочуць прыязджаць у Польшчу».

Уладзімеж Цімашэвіч не хавае, што ўвядзенне візаў – гэта няпростае пытанне. У якасці прыкладу ён прывёў арганізацыю працы консульскага аддзелу пасольства Германіі ў Кіеве, дзе штогод выдаецца 400 тысяч візаў: там працуюць пяць консулаў і 45 супрацоўнікаў. *«Летась нашую мяжу перасяклі 29 млн. гасцей з Усходу. Натуральна, нашыя дыпламатычныя ўстановы не маюць магчымасці выдаць гэтулькі візаў. Рашэннем маглі б стаць шматразовыя візы, нават шматгадовыя. Таму мы плануем разгарнуць інфармацыйную кампанію ў нашых усходніх суседзяў, каб ужо сёння яны звярталіся па атрыманне шматгадовых візаў на ўезд у Польшчу»*, – заявіў польскі міністр замежных справаў, дадаўшы пры гэтым, што для самой Польшчы выгадней было б увесці візы як найпазней.

Уладзімеж Цімашэвіч таксама пацвердзіў пазіцыю сваёй краіны, што для Польшчы кантакты з Беларуссю вельмі важныя, а ізаляцыя Лукашэнкі не азначае ізаляцыі цэлае дзяржавы.

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**

# Знік дзеяч БНФ

Юрась Корбан, сябра Сойму БНФ «Адраджэньне» і кіраўнік Віцебскага цэнтру моладзевых ініцыятываў «Контур», знік 19 студзеня. Паводле словаў ягонае маці Ніны Мікалаеўны, у той вечар каля 21-й гадзіны ён патэлефанаваў са сваёй кватэры бацькам і паабяцаў прыехаць да іх да 23 гадзінаў. Пазней, усё яшчэ са сваёй кватэры, ён тэлефанаваў кіраўніку Маладога Фронту ў Віцебску Віктару Шляхціну. Пазнейшы агляд кватэры бацькамі і сябрамі Корбана паказаў, што ягоны камп'ютэр быў выключаны ў 22.40. А на стале быў знойдзены акт службы «Ахова», які сведчыў пра тое, што тым жа вечарам бліжэй да 24 гадзінаў у кватэры спрацавала сігналізацыя. У акце гэта патлумачана пашкоджаннем тэлефоннай сувязі.

Юрась Корбан, паводле словаў маці, патэлефанаваў бацькам на наступны дзень і сказаў, што вымушаны быў з'ехаць з нейкім чалавекам. Але ў ягонай кватэры ўсе рэчы, якія ён звычайна браў у дарогу, засталіся на месцы.

У сераду, 23 студзеня, адбыўся званок Юрася рэдактару выдаванай цэнтрам «Контур» газеты «Віцебская трыбуна». Корбан паведаміў, што ён знаходзіцца за мяжой па справах і вернецца ў Віцебск у панядзелак ці ў аўторак наступнага тыдня.

Замест гэтага ў панядзелак, 28 студзеня, Юрась Корбан патэлефанаваў бацькам і сказаў, што, пэўна, болей не пабачыцца з імі. Гэты званок, як і папярэдні, перарваўся нечакана... Паводле словаў Ніны Корбан, міліцыя высветліла, што ўсе званкі былі зробленыя з Мінску з Юрасёвага асабістага мабільнага тэлефона, які зараз не адказвае на званкі. Маці Корбана катэгарычна абвергла паведамленні аб тым, што Юрась падчас апошняга тэлефоннага званка нібыта прасіў здабыць грошы і дзеля гэтага прадаць ягоную кватэру.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

# Развод праз суд

## *«Балтыка» патрабуе ад «Крыніцы» вярнуць інвестыцыі*

*Учора стала вядома, што ААТ «Пивоваренная компания «Балтика» падала на «Крыніцу» ў міжнародны арбітражны суд. Цана іску – 10,5 мільёнаў даляраў, ужо ўкладзеных у развіццё беларускага бровару.*

Нагадаем перадгісторыю гэтага канфлікту. Летась Аляксандр Лукашэнка прыняў у сябе генеральнага дырэктара «Балтыкі» Тэймураза Балоева і паабяцаў яму паспрыяць у набыцці кантрольнага пакету акцыяў «Крыніцы». Гэты крок дазволіў бы істотна падвысіць якасць і колькасць піва, якое вырабляецца на беларускім бровары. «Балтыка» паабяцала на працягу 2-3 гадоў інвеставаць у нашу краіну да 50 мільёнаў даляраў. Паверыўшы на слова беларускаму кіраўніку, расійскія півавары пачалі мадэрнізаваць «Крыніцу», не дачакаўшыся заканчэння перамоваў аб яе набыцці. І памыліліся. Як высветлілася сёлета, ніхто не жадае перадаваць ім кантроль над беларускім прадпрыемствам, 90% акцыяў якога сёння належаць дзяржаве.

> **Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ**
>
> Мінскі піўзавод «Крыніца» існуе ад 1975 году. Гэта самы вялікі бровар Беларусі, які патэнцыйна здольны вырабляць у год 7,5 мільёнаў дэкалітраў піва. Асноўная прадукцыя – піва з аднайменнай назвай. Генеральны дырэктар «Крыніцы» – Уладзімір Бадроў.

Тым часам «Балтыцы» удалося рэканструяваць фільтравальны цэх «Крыніцы». Спецыяльна для мінскага заводу набылі і завезлі абсталяванне для варкі піва. У апошні момант расіяне спахапіліся, і, як зазначыў віцэ-прэзідэнт кампаніі Адам Тлехурай у інтэрв'ю газеце *«Время новостей»*, «астатнія тэхналагічныя ліні пакуль не перасяклі мяжы з Беларуссю». Цяпер наўрад ці яны да нас даедуць.

Зразумеўшы, што перадача кантрольнага пакету акцыяў адкладаецца на неакрэслена доўгі час, «Балтыка» запатрабавала, каб беларускі бок спачатку аплаціў рахункі за набытае за мяжой абсталяванне. Усё яно набывалася выключна ў рамках інвестыцыйнага праекту двух бровараў.

Некалькі падарожжаў у Мінск топ-менеджменту расійскай кампаніі не змянілі сітуацыі. Беларускі Савет міністраў упарта адтэрміноўвае перадачу кантролю над «Крыніцай» замежнаму інвестару. Але гэта зусім не ўрад такі ганарлівы і самастойны – наконт немэтазгоднасці такой здзелкі публічна выказваўся сам беларускі лідэр. Маўляў, пакуль патрэніруйцеся скакаць з вышкі ў пусты басейн, а калі навучыцеся – тады вады нальём.

«Нам штодня кажуць, што рашэнне будзе прынятае заўтра, але пакупкі яго дагэтуль няма, застаецца меркаваць, што, відаць, мы не патрэбныя», – кажа А.Тлехурай. Яму асабіста таксама давялося прыязджаць з Санкт-Пецярбургу ў Мінск, каб «выбіць» ад беларускага ўраду кантрольны пакет акцыяў. Па ягоных словах, «Балтыка» спадзяецца атрымаць жывыя грошы, але «гатова забраць і абсталяванне». Беларусы ў адказ толькі просяць пачакаць і не спяшацца – нібыта «рашэнне вось-вось будзе прынятае».

Магчыма, на пэўны час гэтым манеўрам можна было адцягнуць увагу расійскага інвестара – але ненадоўга. У выніку «Балтыка» палічыла, відаць, што будзе прасцей спагнаць грошы праз суд.

Учора начальнік юрыдычнага аддзелу «Балтыкі» Аляксандр Сіўкоў паведаміў агенцтву *«Росбалт»*, што кампанія звярнулася ў міжнародны арбітражны суд пры Гандлёва-прамысловай палаце Расіі з іскам супраць «Крыніцы». Па словах А.Сіўкова, ужо пратэрмінаваныя дзве даты вяртання крэдыту ў 10,5 мільёнаў даляраў – 18 студзеня і 1 лютага. Крэдыт «Балтыцы» не вярталі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

***P.S.*** Калі нумар рыхтаваўся да друку, стала вядома, што прэзідэнта «Балтыкі» выклікаюць «на дыван». Як паведаміў віцэ-прэм'ер Аляксандр Папкоў, 19 лютага ў Аляксандра Лукашэнкі пройдзе нарада, на якой будзе абмяркоўвацца пытанне ўдзелу расійскага боку ў прыватызацыі «Крыніцы». На нараду запрошаны і прэзідэнт кампаніі «Балтыка» Тэймураз Балоеў.

Трэба меркаваць, беларускаму кіраўніцтву вельмі не спадабалася перспектыва замест атрымання 50 мільёнаў даляраў заплаціць, наадварот, 10 з паловай за сваю легкадумнасць. Таму, каб паспяхова развязаць канфлікт, ад расійскага боку будуць патрабаваць нейкіх дадатковых фінансавых гарантыяў – або наўпроставых «зялёных» уліванняў.

## СВОЙ ГОЛАС

***— Ці падабаецца Вам ідэя адмены ў гэтым годзе фестывалю «Славянскі базар» у Віцебску, каб замест яго на зэканомленыя грошы пабудаваць ува ўрочышчы Курапаты мемарыял?***



**Павел, прыватны прадпрымальнік:**
– Падтрымліваю. Навошта нам такі лажовы фестываль, лепш памяць продкаў захаваць.



**Васіль, тэхнік-тэхнолаг:**
– Добрая ідэя, можна было б рэалізаваць. Дый не падабаецца мне «Славянскі базар». Я святы люблю, каб можна было куды з'ездзіць – «пагулдзець-пагуляць», але гэты... Я нават па тэлебачанні яго не гляджу.



**Іван, навучэнец:**
– Не, ерунда. Мне «Славянскі базар» больш падабаецца.



**Ірына, эканаміст:**
– Вы ведаеце, і тое патрэбна, і іншае. А калі грошы ёсць толькі на нешта адно, то я скажу так: «Жывым трэба жыць!» Хай лепш будзе фестываль.



**Юля, студэнтка БДУІР:**
– А чаму там трэба будаваць мемарыяльны комплекс? Там загінуў нехта? А-а, рэпрэсіі... Ну, напэўна, усё ж лепш, каб быў «Славянскі базар».



**Антаніна, пенсіянерка:**
– Мне абсалютна ўсё роўна.



**Андрэй, інжынер:**
– Неблагая ідэя. Я лічу, што так сапраўды будзе лепей. Каб жывым жыць і жыць добра – трэба памятаць сваю гісторыю, гісторыю сваёй краіны.



**Слава, дырэктар фірмы:**
– У прынцыпе добрая ідэя... Хаця «Славянскі базар» таксама. Досыць шмат маладых таленавітых артыстаў адтуль выходзіць. Але ўвогуле гэта вельмі складанае пытанне, займацца ім павінны прафесіяналы, а не я.



**Ірына, музычны кіраўнік дзіцячага садка:**
– Я не магу адказаць адназначна. Мне ў галаву прыходзяць канкрэтных думкі, але я не вельмі ўпэўненая, што іх трэба агучваць. Але ж вядома, чыста па-хрысціянску вы самі разумееце, што лепш трэба было б зрабіць.



**Жанна, вясковая настаўніца:**
– Я не ведаю, мне ўсё роўна. Ну, памятнік... Але ж і «базар» таксама ж добра, праўда? Трэба ж неяк час бавіць.



**Лена, хатняя гаспадыня:**
– Ну як гэта, ну падумайце, «Славянскі базар» жа кожны год праводзіцца, гэта ж ужо проста традыцыя нейкая. Я думаю, яго трэба і надалей праводзіць. Хай будзе!



**Пенсіянер, не прадставіўся:**
– Ой, ну вы ведаеце, я ўжо па ўзросце па-за гульнёй. Я пра базары гэтыя ўжо не думаю. Я, прыкладам, за тое, каб пабудаваць мемарыяльны комплекс, але вы імя майго не пішыце, бо я ўжо аднойчы за Пазьняка падпісаўся, ды пагарэў крыху, пенсію ўрэзалі.



**Вікторыя Станіславаўна, інжынер-тэхнолаг:**
– Ну, выдатная ідэя, я б, калі б было галасаванне, падтрымала б гэтую прапанову. Гэта асабіста маё меркаванне, іншыя мо па-іншаму думаюць. Але я – за.

**Апытанне праводзілі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

 

# Жыццё пасля Афганістану

*15 лютага на Выспе Слёз, што каля Траецкага прадмесця, дзесяці «афганцам» уручаць ключы ад машын для інвалідаў «Ака». Набытыя яны на сродкі «афганскіх» арганізацыяў. Ад дзяржавы «афганцы» іх так і не дачакаліся. Гэтак беларусам, якія прайшлі вайну ў Афганістане, даводзіцца вырашаць практычна ўсе свае праблемы.*




На «круглы стол» па праблемах афганцаў, які адбыўся ў Грамадскім прэс-цэнтры, сабраліся прадстаўнікі ўсіх 11 грамадскіх аб'яднанняў, што займаюцца гэтымі праблемамі. Усе яны самі ўдзельнікі той вайны і не маюць хто рукі, хто нагі. Па іхнім прызнанні, спадзеву, што праз прэсу можна будзе ўсхваляваць грамадскую думку і прыцягнуць да сабе ўвагу дзяржавы, у іх ужо няма. Маўляў, пра гэта казана-пераказана. А прыйшлі яны, каб проста каму-небудзь выгаварыцца. Маўляў, чыноўнікі іх выслухоўваюць не часта.

Гісторыя Таццяны Шпакоўскай тыповая для большасці сем'яў «афганцаў». Муж-афіцэр з афганскай вайны вярнуўся дахаты інвалідам I групы. Пасля перанесеных выпрабаванняў яму давялося пераджыць яшчэ 6 аперацыяў і два гады праляжаць прыкаваным да ложку. Памёр ён 8 з паловай гадоў таму ад трамбозаў, якія сталі вынікам гэтулькіх аперацыяў. Сябры яго пахавалі. Паставіць помнік воіну-інтэрнацыяналісту дзяржава адмовілася. У Мінгарвыканкаме адзін адказ: «помнікі зараз – занадта вялікае задавальненне, шукайце спонсараў». Аказваецца, што па існуючых законах, калі «афганец» памёр на полі бою ці цягам году пасля вяртання, то дзяржава яму вінная і помнік, і льготы. А памёр пазней – тут ужо прабачце. Нібыта трэба было паспяшацца.

Цягам мінулага дзесяцігоддзя ў адным толькі Мінску памерлі больш за 160 удзельнікаў той вайны. Сярэдні ўзрост «афганца» зараз каля 40 гадоў, а смяротнасць сярод іх перавышае сярэднія па краіне паказчыкі ў 2-4 разы. І часта прычынай смерці становяцца алкагалізм, наркаманія і самагубства. Па словах старшыні Асацыяцыі інвалідаў вайны ў Афганістане Сяргея Красоўскага, летась у Мінску яны пахавалі 7 інвалідаў-афганцаў, з якіх 2 павесіліся. Яшчэ каля 40 чалавек спіліся і зараз знаходзяцца ў стане, блізкім да суіцыду.

Многія такім чынам шукаюць выйсця з безвыходнасці. У кожнага трэцяга беларуса-афганца праблемы з жытлом. Напрыклад, у Мінску на чарзе стаяць 330 чалавек, а штогод выдаткоўваецца толькі па 46 кватэраў сацыяльнага жылля. Кожны трэці «афганец», які мае кантузіі ці раненні, беспрацоўны. Пенсіі па інваліднасці, напрыклад, у інваліда III групы зараз не перавышаюць 60 тысяч рублёў. 62% удзельнікаў той вайны пакутуюць ад постстрэсавага сіндрому (так званы «афганскі сіндром»). Натуральна, што многія жанчыны не вытрымліваюць жыцця ў такіх умовах і сыходзяць ад такіх мужоў. А для тых страта адзінага блізкага чалавека часта становіцца апошнім цвіком у труну.

На той вайне загінулі 789 беларусаў, 12 зніклі без вестак, а гэта значыць, што амаль у 800 сем'ях бацькі страцілі сыноў. Пасля смерці «афганцаў» на іхніх удоваў, мацярок і дзяцей ніхто не зважае. Вайна ў Афганістане разбіла гэтым жанчынам жыццё: гадамі яны даглядалі сваіх хворых мужоў і сыноў, абівалі парогі кабінетаў чыноўнікаў, перанеслі цяжкія маральныя траўмы. Аднак пасля смерці «афганца» ягоная ўдава можа разлічваць адно што на палову пенсіі па інваліднасці, якая была ў мужа, і на 3 мінімальныя заробкі штомесяц. Ёсць яшчэ льготы на камунальныя плацяжы, дармовы праезд у грамадскім транспарце ёй і дзіцяці, аднак гэта адразу касуецца, калі жанчына ўступіць у другі шлюб.

Пад 50 гадоў большасць з іх мае букет хваробаў, а некаторыя пасля перанесеных стрэсаў і да гэтага ўзросту не дацягваюць. Адмыслова для воінаў-інтэрнацыяналістаў і іхніх сваякоў у Віцебску ёсць медычны цэнтр рэабілітацыі, але патрапіць туды цяжка, бо ўсіх ахвотных ён даўно не змяшчае.

Былі спадзевы на рэабілітацыйны цэнтр на базе пратэзнага заводу ў Мінску, адчынены мінулым годам. Там новая спартовая заля, басейн, камп'ютэрны клас ...І ўсё гэта абяцалі нібыта для інвалідаў. Аднак, як высветлілася, даступныя гэтыя паслугі толькі на два тыдні рэабілітацыі з новым пратэзам. На гэтым усё. Далей пачынаецца камерцыя – і паслугі прадастаўляюцца толькі платна. Прычым любому, хто можа за іх заплаціць. Таму натуральна, што таго ж бізнесоўца ў стане рэлаксацыі пасля працоўнага дня там можна пабачыць часцей, чым інваліда.

Па словах саміх інвалідаў, ім не патрэбныя льготы, тым больш што рэальна дзейнічае з іх толькі права на бясплатны праезд у грамадскім транспарце. Ім патрэбны пэўныя сацыяльныя гарантыі ад дзяржавы, а на жыццё тады яны заробяць сабе самі.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Ахвяры лакальных войнаў

Сёння ў Беларусі жывуць больш за 32 тысячы ўдзельнікаў лакальных войнаў і ваенных канфліктаў на тэрыторыі іншых дзяржаў.

У 1999 годзе Міністэрства сацыяльнай абароны распрацавала праграму падтрымкі воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Аднак праз недахоп фінансавання многія мерапрыемствы гэтай праграмы не выконваюцца. Так, у 2001 годзе больш за 2,5 тысячы воінаў-інтэрнацыяналістаў прайшлі курс лячэння ў Рэспубліканскім медыцынскім цэнтры рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў у Віцебску, разлічаным на 100 месцаў.

У Савет міністраў Беларусі унесены прапановы аб далейшым удасканаленні выдзялення сродкаў для пратэзавання інвалідаў-афганцаў. Летась, з рэспубліканскага бюджэту на гэтыя мэты было выдзелена больш за 126 мільёнаў рублёў. Тым не меш гэтая праблема пакуль не вырашана.

На 1 студзеня гэтага году ў краіне стаяць на ўліку 2 009 воінаў-інтэрнацыяналістаў, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоваў. У параўнанні з 1999 годам іх колькасць скарацілася ў тры разы.

**Вольга АСІПЕНКА, БелаПАН**

ЭКСПРЭС

# Эканамічныя нататкі

## Змена чаўнакоў на турыстаў

На мінулым тыдні прадстаўнікі Літвы і Беларусі падпісалі ў Вільнюсе дамову аб супрацоўніцтве ў сферы турызму. Як сцвярджаюць статыстыкі, Літва саступае толькі Польшчы і Расіі па ўзроўні наведвання нашымі грамадзянамі. Аднак большасць з іх затрымліваецца там, як і літоўцы ў Беларусі, на 1-2 ночы – гэтага хапае дзеля чаўночнага бізнесу. Увогуле ж ў 2001 годзе Літву наведала 640,7 тыс. беларусаў, адтуль да нас прыязджала прыкладна 400 тыс. чалавек. Дзелавыя бакі лічаць магчымым наладжванне сапраўднага турызму паміж Літвой і Беларуссю і абяцаюць прыкласці ўсе намаганні дзеля яго развіцця.

## Немцы «разгультаяваліся»

Беспрацоўе ў Германіі перавысіла 4 мільёны чалавек. Гэта для нямецкіх эканамістаў і палітыкаў крытычная адзнака, улічваючы прызначаныя на верасень выбары. Без уліку сезоннага фактару колькасць беспрацоўных павялічылася з 3,964 млн. чалавек у снежні 2001 году да 4,289 млн. чалавек у студзені 2002 году. Гэта 9,6% ад колькасці працаздольнага насельніцтва. Палітыкі зараз усімі сіламі спрабуюць стрымаць рост паказчыкаў беспрацоўя, але да моманту выбараў, па прагнозах, апусціць іх ніжэй за 4 млн. чалавек не ўдасца. Такі стан рэчаў можа моцна падарваць пазіцыі сацыял-дэмакратаў, якія абяцалі трымаць гэтыя лічбы на ўзроўні 3,5 млн. чалавек.

## Валютная скарбонка Персідскага заліву

Валютныя запасы шасці нафтавытворчых краін Персідскага заліву падвоіліся за апошнія 10 гадоў і дасягнулі ўжо 45,3 млрд. даляраў. Пра гэта гаворыцца ў штогадовым дакладзе Лігі арабскіх дзяржаваў (ЛАД). Па звестках ЛАД, сумарныя валютныя рэзервы краін заліву склалі 44% ад запасаў усіх 22 арабскіх дзяржаў (192 млрд. даляраў). Найбольшыя запасы, вядома, у Саудаўскай Аравіі – 19,5 млрд. даляраў, на другім месцы – ААЭ з 14,1 млрд. даляраў. Замыкае гэты шэраг Джыбуці, якая мае ў запасе 68 млн. даляраў. У дакладзе таксама адзначаецца, што сумарныя замежныя даўгі ўсіх арабскіх краін скараціліся за апошнія пяць гадоў са 159 да 143,8 млрд. даляраў.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Інстытут закрытага грамадства

*Аднойчы я ўзяў у рукі* The New York Times. *На першай старонцы газеты ў левым кутку быў надрукаваны някідкі лозунг: «Кожны факт варты друку». З гэтым цяжка не пагадзіцца. Чалавек, аднак, так зроблены, што ў плыні фактаў імкнецца выдзеліць галоўнае. Зразумела, у кожнага свае крытэрыі адбору. Камусьці падабаецца поп, а хтосьці ў першую чаргу заўважае пападдзю. Асабіста для мяне пападдзёй мінулага тыдня стаўся ліст Адміністрацыі прэзідэнта з папярэджаннем аб ліцэнзаванні сацыяльных даследаванняў у Беларусі, што мае пачацца неўзабаве.*

Як гэта адаб'ецца на грамадстве – здагадацца не цяжка. Мяркую, прафесіяналы ўжо найбліжэйшымі днямі раскладуць нам усё па паліцах. Але, на мой погляд, не менш цікавымі будуць наступствы для самой улады, для эліты нашай шматвектарнай рэспублікі. Не маючы пад рукой спецыяльнай літаратуры, я пагартаў слоўнік іншамоўных словаў (у адрозненне ад іншых слоўнікаў, гэта не толькі прыемнае вечаровае чытво, але і скарбонка карыснай інфармацыі) і прачытаў: «**Эліта** (фр. *elite*) – 1) лепшае, адборнае насенне, расліны і жывёлы, атрыманыя ў выніку *селекцыі* і прызначаныя для далейшага размнажэння і развядзення; 2) найбольш прыкметныя прадстаўнікі якой-небудзь часткі грамадства, групоўкі і г.д.». На жаль, пра расліны і жывёлаў сказана больш падрабязна, чым пра «найбольш прыкметных прадстаўнікоў якой-небудзь часткі грамадства...». А галоўнае – адкуль яны бяруцца і ці можна іх атрымаць у выніку селекцыі з мэтай далейшага развядзення?

Разгорнем слоўнік. «**Селекцыя** (лац. *selectio* выбар) – выдзяленне новых і паляпшэнне існуючых гатункаў раслін і парод жывёлаў шляхам прымянення навуковых метадаў адбору, гібрыдызацыі, ацэнкі нашчадкаў». Слова «выбар» мне зразумела. Толькі ў прэзідэнцкіх выбарах я ўдзельнічаў двойчы, кожнага разу таемна спадзеючыся палепшыць пароду кіраўніка краіны. Але далёка не ўсе мае суайчыннікі галасавалі «шляхам прымянення навуковых метадаў адбору», што прыкметна адбілася на якасці эліты. Але чытаем далей: «**Гібрыдызацыя** – скрыжаванне асобін, прыналежных да розных гатункаў, пародаў раслін і жывёлаў». Са скрыжаваннем у нас апошнім часам зусім цяжкавата. Адзіны гатунак, які агрэсіўна выцесніў усе астатнія з палітычнага поля, – шклоўскі. На беларускіх падзолах ён дае высокую ўсходжасць і адметны ўстойлівасцю да палягання, але ён нізкапрадукцыйны і з папулярнымі еўрапейскімі гатункамі не скрыжоўваецца. Тэарэтыкі палітычнай селекцыі адрозніваюць адкрытыя і закрытыя эліты. Адкрытыя эліты вызначаюцца шляхам галасавання падчас дэмакратычных выбараў.

Пры гэтым, як правіла, вынікі выбараў неістотна адрозніваюцца ад звестак сацапытанняў, атрыманых незалежнымі ад улады навуковымі групамі. Закрытыя эліты выбіраюць самі сябе.

Прыклад адкрытай эліты – любая спартовая зборная, ад школьнай да нацыянальнай. Тыповая закрытая эліта – Палітбюро ЦК КПСС. Спартовыя трэнеры заўсёды ў пошуку таленавітых гульцоў. Без прадуманай селекцыйнай працы нельга дабіцца сталых поспехаў у сучасным спорце. Толькі «свежая кроў» дазваляе зборным заставацца элітай – складацца з найлепшых прадстаўнікоў грамадства.

У закрытых элітах функцыі гульцоў і трэнераў, як правіла, сумяшчаюцца. Спецыялісты па селекцыі выводзяцца за штат, а на лаўцы запасных апынаюцца толькі шэрыя асобы. Галоўнай прафесійнай рысай стаецца асабістая адданасць трэнеру-гульцу. Яркія зоркі, што ўспыхваюць па-за межамі такіх зборных, хутка цьмянеюць ці раптоўна знікаюць па дарозе дадому (з лазні ці з аўтастаянкі, тут магчымыя варыянты).

Аднойчы ўзнікшы, закрытыя эліты няспынна дэградуюць. Канцавую фазу іх існавання спецыялісты называюць клікай. Слова яўна замежнае, а таму чарговым разам адкрыем слоўнік: «**Кліка** (фр. *clique* хеўра, банда) – група людзей, якія імкнуцца любымі сродкамі дасягнуць якіх-небудзь карыслівых, непрыгожых мэтаў».




У наш час клікі, як сацыяльныя структуры, досыць устойлівыя. Яны сапраўды «любымі сродкамі» спрабуюць утрымацца пры ўладзе, любымі, апроч разумных, якія грунтуюцца на верагоднай **інфармацыі**. Слова гэтае («інфармацыя») лацінскае і азначае тлумачэнне, выклад. Адмяжоўваючыся ад грамадства таямніцай, як шчытом, клікі ўводзяць цэнзуру, «глушылкі» ці забароны на незалежныя сацыялагічныя апытанні. Але ў платоў і ў медалёў ёсць два бакі. Яны аддзяляюць не толькі першых ад другіх, але і другіх ад першых. Самае дзіўнае з таго, што я прачытаў пра Вялікую Айчынную вайну, быў радок з дзённіка начальніка генеральнага штабу вермахту. На трэці дзень савецкага контрнаступу пад Масквой высокі армейскі чын запісаў: «Яшчэ адно намаганне – і Масква падзе, канец вайны блізка». Як такое магло здарыцца? А ці магло быць іначай? На задуму галоўнага трэнера-гульца планаваўся бліцкрыг. Планавалася перамога. Якой інфармацыі чакалі – такую і атрымлівалі. Але нельга кіраваць сістэмай, якой не ведаеш. Усякая (падкрэсліваю, усякая) інфармацыя – дабро. «Кожны факт варты друку. Вялікая Кітайская сцяна працавала ў першую чаргу як інфармацыйны фільтр, але ўрок не пайшоў на карысць. Сышоў Заматалін, але замяталіны засталіся. Чальцы закрытых элітаў не могуць быць рэалістамі, г.зн. паслядоўнікамі рэалізму – ад лацінскага *realis*, што азначае «выразнае разуменне і ўлік умоваў рэчаіснасці пра ажыццяўленні чаго-небудзь».

**Сяргей НІКАЛЮК**







# Мілыя вобразы роднага краю

*Адной з галоўных прычынаў з'яўлення шыкоўнага палаца Пуслоўскіх менавіта каля мястэчка Косава была блізкасць сямейнай сядзібы Тадэвуша Касцюшкі.*

Як засведчыла акварэль Напалеона Орды, дом Касцюшкі і велічны палац Вадаміна Пуслоўскага раздзяляла дарога і метраў дзвесце паркавай прасторы. Дом Касцюшак стаяў у нізіне, палац – на ўзгорку, і з яго вокнаў старадаўні шляхецкі маёнтак, дзе нарадзіўся і пражыў дзіцячыя гады адзін з найбольш вядомых людзей нашага краю, быў відзён як з вышыні птушынага палёту.

Вадаміну Пуслоўскаму, калі ён набыў пад Косавам абшар зямлі і замовіў праект палаца, было ўсяго 24 гады. Інакш кажучы, нічога, апроч амбіцыяў, у яго за душой на той час быць не магло. Не адзначыўся ён грамадскай ці творчай чыннасцю і ў далейшыя гады; біяграфічныя даведнікі падаюць яго як аматара мастацтваў і мецэната, вядомага прамыслоўца і ўладальніка вялікай маёмасці. Не надта многа, каб, стоячы на балконе палаца, паказваць сваім гасцям сціплую гістарычную сядзібу Начальніка паўстання. Але і ў сталым веку знешняе мела для пана Вадаміна не меншую сілу. У 1871 годзе яму і ўсёй фаміліі Пуслоўскіх папа Пій IX надаў тытул графа рымскага, і, здаецца, Пуслоўскія сталі аднымі з апошніх па часе атрымання гэтага заходнееўрапейскага тытула, неўласцівага магнатэрыі на Айчыне. Верагодна, што графскую годнасць Вадаміну забяспечыў немалы фундуш на карысць Касцёла, бо іншых падставаў для гэткага ўганаравання ягонага роду не было. Больш за тое, напрыканцы таго стагоддзя пагоня за тытулам графа выглядала не надта годна і не ўпрыгожыла генеалагічнага дрэва роду.

Фінансавыя магчымасці Пуслоўскага, якія дапамаглі атрымаць ад рымскага пантыфіка тытул, дазволілі ў маладосці задаволіць прэтэнзіі на унікальны для Беларусі 19-га стагоддзя гмах. Па яго жаданні архітэктар Францішак Яшчалд спраектаваў у стылі неаготыкі прэзэнтацыйны будынак, які, згодна з легендай, меў 365 пакояў на двух паверхах, і нішто на Берасцейшчыне не магло б зраўнацца з ім памерамі. У 1874 годзе Вадамін пасля смерці старэйшага брата атрымаў слынны сваёй прыгажосцю палац у Кралікарні паблізу Варшавы, дзе і асеў. Косаўскі палац застаўся аздобай мясціны, мяняў гаспадароў і дастаяў амаль некранутым да 1942 году, калі яго *спалілі, як кажуць, партызаны*. У той жа год згарэў і дом Касцюшкі. Ад драўлянай Мерачоўшчыны, як відаць на здымку, нічога не засталося, а руіны палаца і сёння выклікаюць жаль аб тым, што ён аддадзены на з'ядзенне стыхіям. Цяпер яго абкружае высокі сасняк, а раней палац быў відзён падарожным здалёк, і таямніца яго прысутнасці на пагорку прыцягвала сотні цікаўных паглядзець на гэты цуд фантазіі.

Цікаўныя прыходзяць да яго і сёння. Цяпер іх стала непараўнальна болей, чым было раней. Муры палаца ператвораны ў своеасаблівую кнігу запісаў візіцёраў з розных куткоў краіны і з замежжа: прыкладам, на ім напісалі свае імёны шахцёры з Горлаўкі. Што іх занесла ў Косава – невядома. Найбольш запэцкалі сцены сваімі прызнаннямі шматлікія закаханыя. Некаторыя, даводзячы моц сваіх пачуццяў, нават здолелі без лесвіцаў забрацца на самы верх вежаў, прычым маючы з сабой банкі з фарбай, што дазволіла назаўжды пазначыць на палацы Пуслоўскага імёны нашых рамэо і джульетаў.

У лесе, які падступіў да сценаў палаца, для наведнікаў зроблены некалькі лавак. Кастрышчы і кучы смецця даводзяць, што начныя гулянкі ля руінаў прываблiваюць мноства рамантычнага народу.

Месца сядзібы Касцюшкі ўшанаванае памятным каменем. Усе пасляваенныя пакаленні гісторыкаў і краязнаўцаў намагаліся пераканаць грамадскую і ўладную думку, што трэба рэстаўраваць палац і аднавіць сядзібу ў Мерачоўшчыне. Хоць палац у сто разоў большы за дом Касцюшкаў, але сам па сабе ён не мае вялікай значнасці. Гістарычнасць гэтай мясціне надае якраз імя Касцюшкі, і таму Мерачоўшчыну наведвалі шмат знакамітых і значных у нашай даўніне людзей. Тут былі Напалеон Орда, Юзаф Крашэўскі, Генрык Сянкевіч, Яўстафі Тышкевіч, Эліза Ажэшка, Рамуальд Траўгут, Юзаф Пілсудскі, Вацлаў Ластоўскі ды, відаць, уся плеяда дзеячаў нашай культуры 19 – *пачатку і канца 20-га стагоддзя*. Ужо адно гэта надае былой Касцюшкавай сядзібе статус месца паломніцтва.

Аднак, раней – з ідэалагічных меркаванняў, а ў апошняе дзесяцігоддзе – з прычыны бюджэтнай беднасці, тут нічога рэстаўрацыйнага не рабілася. Была, наколькі вядома, на пачатку 1990-х гадоў у нейкай багатай на той час аграфірмы задума правесці рэстаўрацыю палаца пад сваю рэзідэнцыю, і архітэктар Г.Босак распрацаваў нават праект рэстаўрацыі, ды не найлепшы стан сельскай гаспадаркі вымусіў адмовіцца ад добрай справы.

Бо рэстаўрацыя такога гмаху патрабуе вялізных грошай. Апроч таго, яму патрэбна знайсці нейкую разумную функцыю. І на дадатак фундатар мусіць разумець культурную і гістарычную значнасць помнікаў. Але багатых і адначасна культурных асобаў (у тым ліку – юрыдычных) у наш час няшмат.

Нарэшце такая асоба нібыта з'явілася. Новым гаспадаром палаца можа стаць буйная фірма расійскага паходжання «Саюзтэхсэрвіс». Пытанне ўжо можна было б лічыць вырашаным, бо ўлады – і раённыя, і абласныя – далі згоду на адпаведную дамову. Аднак пакупнік руінаў палаца нібыта жадае застрахавацца і атрымаць спецыяльную пастанову Савету міністраў. І яго можна зразумець, бо існуе небяспека страціць пакупку пасля праведзеных работ з прычыны няпоўных правоў на ўчастак зямлі. Поспехі гаспадарчай службы Адміністрацыі прэзідэнта ў часы Ціцянкова, які прыдбаў шэраг будынкаў, перасцерагаюць ад паспешлівых рашэнняў. Нікому не хочацца апынуцца ў становішчы Саюзу пісьменнікаў Беларусі, які стаў прымаком ва ўласным Доме літаратара. Калі з божай ласкі ў нашага Савету міністраў хопіць розуму такую згоду фірме даць, то Косаўскі палац і ландшафтны парк пры ім будуць адноўленыя і стануць уласнасцю фірмы. Па стандартах рэстаўрацыі помнікаў палац у пэўныя дні будзе адкрыты для турыстычных наведванняў. Не варта забываць, што і пры Пуслоўскім не кожны, хто хацеў, мог хадзіць па ягоным маёнтку, заходзіць у залы і пагатоў пісаць на сценах рознае глупства. Умовай продажу будзе і рэстаўрацыя сядзібы Касцюшкі. Такім чынам гэты гістарычны куток будзе адроджаны. Ёсць тут і важкі эканамічны ракурс: плён рэстаўрацыі адгукнецца турыстычным бумам і дасць рабочыя месцы косаўцам.

Магчыма, што ў недалёкай будучыні даўняя акварэль Напалеона Орды зноў будзе адпавядаць натуры, а не служыць сведчаннем зніклага жыцця.

**Канстанцін МАТУСЕВІЧ,**
**фота Уладзіміра ШЛАПАКА**







**КУРАПАТЫ**

## Спрэчныя пытанні мемарыялізацыі

Вядомы беларускі мастак Аляксей Марачкін крытыкуе пазіцыю Беларускага камітэту міру (БКМ), які, як ён заявіў, без папярэдняга абмеркавання прасоўвае сваю канцэпцыю мемарыялу ў Курапатах у структурах вышэйшай улады. Так мастак адрэагаваў на паведамленні аб тым, што прэзідыум БКМ на сваім паседжанні разгледзеў і ўхваліў канцэпцыю мемарыялу ахвярам рэпрэсій ва ўрочышчы Курапаты і накіраваў яе ўраду і кіраўнікам абедзвюх палат парламенту.

Паводле яго слоў, ініцыятыва БКМ – адмысловая спроба апярэдзіць падзеі і даць магчымасць уладным структурам вырашыць праблему мемарыялізацыі ўрочышча без грамадскага абмеркавання. «Ініцыятыва «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» ідзе іншым шляхам – мы дасканала распрацоўваем сваю канцэпцыю, якая хутчэй будзе прынята і прапанавана да грамадскага абмеркавання», – сказаў мастак.

Гаворачы пра асноўныя палажэнні рабочага праекту, які рыхтуе грамадская ініцыятыва «За ўратаванне мемарыялу Курапаты», мастак адзначыў, што неабходна выключыць з дакумента паняцце «гісторыка-культурная каштоўнасць», якая адносіцца да статусу будучага мемарыялу. Мастак лічыць, што неабходна абавязкова захаваць і, магчыма, нават узмацніць дамінанту мемарыялу – устаноўлены ў 1989 годзе Крыж пакутаў, а таксама прасеку, якая ўтварылася падчас пракладкі газаправоду праз Курапаты і надае ўрочышчу эмацыянальны акцэнт.

15 лютага ў 17 гадзін у сталічнай штаб-кватэры Партыі БНФ «Адраджэньне» прадстаўнікі грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» плануюць завяршыць абмеркаванне і зацвердзіць для грамадскага абмеркавання праект канцэпцыі мемарыялу. Потым будзе адкрыты банкаўскі рахунак на зборы сродкаў на ўзвядзенне мемарыялу.

**Марат ГАРАВЫ**

# У супермаркеце Усамы

Элізабета БУРБА

*Самаабвешчаная савецкая рэспубліка, якая існуе за кошт нелегальнага гандлю зброяй і наркотыкамі, за кошт адмывання грошай. Гэта ў пэўным сэнсе Тартуга ў самым сэрцы Еўропы, якая пастаўляе зброю ўсім тэрарыстычным рухам. На думку заходніх спецслужбаў, менавіта тут размяшчаюцца цэнтры па ўзбраенні і падрыхтоўцы людзей «Аль-Каіды».*

«Зброя? Яе тут вырабляюць паўсюль. Нават на шклозаводах». У зацішку, у аўтамабілі з закрытымі вокнамі, каб схавацца ад цікаўных вачэй і вушэй, а можа і з-за холаду, Раман пачынае сваю споведзь-прызнанне: «Пасля вайны ў рэспубліцы пачалі вырабляць толькі зброю». Таварыш Раман, сівы мужчына ў ваеннай шапцы, адкрывае «Панараме» таямніцы прамысловага раёну Цірасполя, атачанага па ўсім перыметры заводамі, пабудаванымі ў стылі сацрэалізму.

«Гэта – «Электрамаш», – кажа ён, паказваючы на цэментавы камбінат, які здаецца бясконца доўгім. – Гэты, з чырвонай зоркай, – Кіраўскі. На першы погляд – абсалютна мірныя прадпрыемствы. А насамрэч з гэтых пражавелых цэхаў кожны дзень выязджаюць грузавікі з гранатамётамі «Гном», мінамётамі «Васілёк», пісталетамі Макарава, пераноснымі зенітна-ракетнымі комплексамі «Дуга», а таксама аўтаматамі «Палісмен», якія карыстаюцца папулярнасцю ў тэрарыстаў, бо іх можна схаваць у дыпламаце. Атрымальнікі гэткіх грузаў – тэрарыстычныя групоўкі, такія, як «Аль-Каіда», «ХАМАС», «Хезбала», а таксама такія краіны, як Ірак, Іран, Палесціна, Чачня і Нагорны Карабах. Усе яны жаданыя госці ў Прыднястроўі, што ператвараецца ў парахавы склеп Еўропы.

Самаабвешчаная дзяржава, назва якой падобная да назвы мультфільма, – адзіная савецкая рэспубліка, якая засталася на зямным шары. Яна стала самым вялікім на свеце рынкам, дзе прадаюцца звычайныя і... іншыя тыпы ўзбраенняў. На гэтай паласе зямлі паміж тэрыторыямі Малдовы і Украіны захоўваецца агромністая колькасць зброі масавага знішчэння (хімічнай, радыеактыўнай і нават ядравай), якая можа выкарыстоўвацца для тэрарыстычных актаў і баявых аперацый.

«Панарама» мае звесткі пра тое, што апошнімі месяцамі эмісары тэрарыстычнага інтэрнацыяналу прыязджалі ў Прыднястроўе, якраз каб закупляць зброю. Нягледзячы на развешаныя паўсюль лозунгі з заклікамі да міру між народамі, гэтая адкрытая зона зрабілася прытонам для дзялкоў, крэда якіх – бізнес. «Усе пастаўкі ідуць праз кампанію «Шэрыф», якую ўзначальвае Уладзімір Смірноў, сын прэзідэнта Ігара Смірнова і адначасова кіраўнік мытнай службы», – паясняе Паола Сарторы, афіцэр Інтэрполу па сувязях з грамадскасцю. «Шэрыф» – адзіная кампанія, што мае ліцэнзію на замежна-гандлёвую дзейнасць. Яна не абкладаецца ніякімі падаткамі і пошлінамі». Згодна з ацэнкамі малдаўскіх разведслужбаў, абарот гэтай кампаніі складае 4 мільярды даляраў. Афіцыйна абвешчаны ВУП Прыднястроўя – толькі 85 мільёнаў даляраў: 1/47 частка абароту «Шэрыфа».

Плынь брудных грошай не спыняецца: кантрабанда зброі, гандаль нафтай, кантрабанда наркотыкаў, цыгарэт і алкаголю. Самым даходным сектарам, між тым, застаецца зброя. Па звестках малдаўскіх спецслужбаў, сярод тэрарыстычных груповак, што закупляюць у Прыднястроўі зброю, боепрыпасы, ядравыя і радыеактыўныя матэрыялы, багата ісламскіх арганізацый. Перш за ўсё – «Аль-Каіда».

Сляды гэтай актыўнай дзейнасці адзначаны ў суседніх краінах: Малдове, Румыніі і Украіне. Да прыкладу, калі ў красавіку 1999 году ў аэрапорце Кішынёва па тэхнічных прычынах зрабіў пасадку ўкраінскі самалёт, паліцыя знайшла на борце 5 тысячаў адзінак незадэклараванай зброі, якая прызначалася для тэрарыстычных груповак на тэрыторыі былой Югаславіі (дзе зусім нядаўна арыштавалі вялікую колькасць удзельнікаў «Аль-Каіды»). У ліпені 1999 году ў Малдове арыштавалі сябра РПК (Рабочая партыя Курдыстану) Чэвата Сойсала, які паспрабаваў арганізаваць там лагер для трэніроўкі баевікоў сваёй партыі.



У кастрычніку 2001 году Кішынёў выставіў з краіны ганаровага консула Лівану Махмуда Хамуда па абвінавачванні ў прыналежнасці да руху «Хезбала». Для пашырэння сваёй прысутнасці ў Малдове і Румыніі гэтая арганізацыя выдзеліла дыпламату 400 тыс. даляраў. «Незадоўга да гэтага консул атрымаў ступень доктара ў прыватным кішынёўскім універсітэце «Улім», – паведаміў супрацоўнік місіі АБСЕ ў малдаўскай сталіцы Мацi Сідараф. За некалькі дзён да ад'езду консула універсітэт стаў аб'ектам крытыкі з боку дэпутата ад хрысціянска-дэмакратычнай партыі Стэфана Секарану, паводле словаў якога, 600 ісламскіх студэнтаў прыватнага універсітэту – удзельнікі тэрарыстычных груповак.

Увагу праваахоўных органаў прыцягнула да сябе і другая ўстанова – «Петрабанк», які выгодна размясціўся ў 18-павярховым мармуровым доме. Па словах малдаўскага прэзідэнта Уладзіміра Вароніна, гэтая крэдытная ўстанова адмыла звыш 584 мільёнаў даляраў для трох прыднястроўскіх банкаў. Адкуль усе гэтыя грошы? – «Незаконны гандаль зброяй і наркотыкамі, прыбыткі ад якога таксама прызначаюцца для фінансавання тэрарыстычных груповак», – тлумачыць Сарторы.

Румынія таксама стала адным з фінансавых цэнтраў «Аль-Каіды». Некалькі гадоў таму Усама бен Ладэн назваў яе адной са сваіх базаў. Румынская служба разведкі сцвярджае, што ў краіне дзейнічае пэўная колькасць падстаўных фірмаў, праз якія ў перыяд з 1999 па 2001 год пералічаліся мільёны даляраў для тэрарыстычных груповак Іраку, Егіпту, Лівану і Сірыі. Напрыклад, праз *Misr Rumanian Bank di Bucarest* егіпцянін па імені Рашыд Асман перавёў у александрыйскі банк у Егіпце на рахунак высокапастаўленага прадстаўніка фундаменталісцкай групоўкі 160 мільёнаў даляраў.

Праз гэты самы банк трое грамадзянаў Іраку, верагодна, эмісары Садама Хусейна, перавялі ў Багдад 6,3 мільёна даляраў. Афіцыйна гаворка ў гэтых выпадках вялася пра перадаплату за тавар, які пастаўляецца з Румыніі. Але таго тавару так ніколі і не даставілі. Інтэрпол падазрае, што ўсе гэтыя транзакцыі праводзіліся дзеля фінансавання тэрарыстычных груповак. Але гэта яшчэ не ўсё. У снежні мінулага году ўлады Бухарэсту выставілі з краіны іракскага консула Махамеда Абдэльразака «за дзейнасць, несумяшчальную з яго статусам», а паводле добра інфармаваных крыніцаў – за падтрымку тэрарыстычных арганізацыяў, блізкіх да «Аль-Каіды».

І ўсё ж ядром гэтай праблемы застаецца Прыднястроўе.

Трапіць туды – цэлая прыгода: выехаўшы з Кішынёва, трэба праехаць 80 км па дарозе, што ідзе ўздоўж заснежаных вінаграднікаў, і ўрэшце апынаешся перад блокпостам 14-й арміі. Апавешчаныя назіральнікам з танка пад маскіровачнай сеткай, на пост прыбываюць расійскія салдаты, якія пасля вайны з Малдовай выконваюць тут міратворчыя функцыі. Праз некалькі кіламетраў – памежны шлагбаум. Пад сцягам Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі – салдат, які быццам сышоў з экрану фільма пра Рэмба – зацягнуты ў сапраўдны савецкі мундзір з чырвонай зоркай на фуражцы.

У выніку доўгіх перамоваў група італьянскіх журналістаў нарэшце атрымлівае трохгадзінную візу за 20 даляраў. Вайсковец пералічвае спіс аб'ектаў, якія нельга фатаграфаваць – гэта практычна ўсё, што тут ёсць. Перасякаеш мяжу – і быццам пераскокваеш у яшчэ зусім нядаўняе мінулае краін Усходняй Еўропы: нешматлікія аўтамабілі, фурманкі з коньмі, людзі, якія ходзяць збольшага пешкі.

Першы горад – Бэндэры, анклаў на заходнім беразе Днястра. Тут, па звестках урадавай газеты *Независимая Молдова*, на фабрыцы «Прибор» вырабляюцца ракеты Бм21 «Град», гранатамёты СПГ-9, супрацьтанкавыя пускавыя ракетныя ўстаноўкі РПГ-7. У 1993 годзе такая зброя была ў абхазскіх паўстанцаў. У самым цэнтры Бэндэр узвышаецца атаманская крэпасць. «У яе падземных тунелях, – сказаў журналістам «Панарамы» дырэктар кішынёўскага Цэнтру стратэгічных даследаванняў і рэформаў Анатолій Гудзім, – захоўваецца шмат зброі».

Пераправіўшыся на другі бераг Днястра, апынаешся ў Цірасполі. На вуліцах «сталіцы» шмат скульптурных выяваў Леніна. На самой справе Уладзімір Ільіч пераварнуўся б у труне. Прыднястроўцы – камуністы і праваслаўныя хрысціяне – прадаюць зброю чачэнцам, гістарычным ворагам Расіі, а таксама турэцкім «Шэрым ваўкам». Малдаўскі прэзідэнт Варонін (камуніст) абвінавачвае прыднястроўскага прэзідэнта Ігара Смірнова (таксама камуніста) у тым, што той «стаіць на чале ўраду бандытаў, карумпаваных чыноўнікаў і мафіёзных дзеячаў». Напрыклад, Уладзімір Анцюфееў, які хаваецца ад міжнароднага правасуддзя пасля здзяйснення розных злачынстваў у Латвіі, знайшоў прытулак у Цірасполі, дзе яго прызначылі на пост міністра нацыянальнай бяспекі.

Святая святых Цірасполя – аэрапорт. Там усталяваны 24 ракеты «Алазань» з боегалоўкамі з радыеактыўнымі ізатопамі («Алазань» – супрацьградавая ракета; насамрэч, сумнеўна, што такія ракеты будуць выкарыстоўвацца пры наяўнасці «Града» – кам. *Инопрессы*), што выклікае непакой нават у мясцовых уладаў.

28 верасня 2001 году незалежная малдаўская газета *Journal de Chisinau* апублікавала артыкул пад назвай «У Цірасполя атамная бомба!». Газета атрымала ў сваё распараджэнне матэрыялы, якія сведчылі пра наяўнасць у Прыднястроўі атамнай зброі. Па словах Віарэла Чыбатару, дырэктара Кішынёўскага дзяржаўнага паліталагічнага інстытуту, ракеты «Алазань» сельскагаспадарчага прымянення былі прыстасаваныя для ваенных мэтаў з выкарыстаннем звычайных і радыеактыўных боегаловак». У інфармаваных колах Кішынёва распаўсюджанае меркаванне пра тое, што такія ракеты, магчыма, прадаваліся «Аль-Каідзе».

Але і гэта не самае страшнае. «Выклікае занепакоенасць размяшчэнне ў гэтым бескантрольным раёне радыеактыўных матэрыялаў, больш небяспечных, чым удасканаленыя ракеты», – тлумачыць Джанандрэа Гаяні, дырэктар вэб-сайту *analisidifesa.it*. «Заходнія разведслужбы ўпэўненыя, што «Аль-Каіда» ўжо мае радыеактыўныя матэрыялы для стварэння «брудных бомбаў». Ці можна сцвярджаць, што іх купілі ў Цірасполі? Паола Сарторы з Інтэрполу кажа: «Я не маю права абмяркоўваць такія пытанні». Між тым відавочна наступнае: па звестках малдаўскіх сакрэтных службаў, нядаўна тэрарыстычныя групоўкі накіравалі сваіх эмісараў у Прыднястроўе для закупкі зброі «рознага кшталту».

**PANORAMA**

## Тадэвуш Кандрусевіч стане маскоўскім біскупам

Афіцыйны прадстаўнік Ватыкану Хаакін Навара-Вальс выступіў перад журналістамі з заявою, у якой пракаментаваў апошнія рашэнні Святога Пасаду аб пераўладкаванні каталіцкае царквы ў Расіі, паведамляе прэс-служба Ватыкану. Рашэнне Папы Рымскага Яна Паўла II павысіць статус сваіх структураў у Расіі ён патлумачыў імкненнем нармалізаваць Рымска-каталіцкую царкву ў Расіі і аблегчыць пастырскае служэнне.



Кафедральны сабор Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшае Панны Марыі ў Маскве

Як стала вядома, цяперашнія Апостальскія адміністратуры Рымска-каталіцкае царквы ў Расіі пераўтвораны ў чатыры епархіі з цэнтрамі адпаведна ў Маскве, Саратаве, Навасібірску і Іркуцку. Галоўнаю з іх будзе маскоўская, на чале якой стане цяперашні прадстаўнік Ватыкану ў Расіі Тадэвуш Кандрусевіч.

Каментуючы гэтыя пераўтварэнні, Х.Навара-Вальс адзначыў, што Руская праваслаўная царква таксама стварае арганізацыйныя структуры, пакліканыя апекавацца вернікамі, якія жывуць па-за тэрыторыямі з традыцыйнай перавагаю праваслаўнага насельніцтва. Так, напрыклад, РПЦ стварыла епархіі ў Аўстрыі, Германіі і Бельгіі, а таксама ў Паўднёвай Амерыцы.

Прадстаўнік Ватыкану выказаў надзею Святога Пасаду на «паляпшэнне дыялогу і супрацоўніцтва» з Маскоўскім патрыярхатам. Афіцыйны прадстаўнік Ватыкану заявіў, што Каталіцкая царква «спадзяецца з дапамогаю гэтай рэарганізацыі палепшыць дыялог і супрацоўніцтва з Рускай праваслаўнай царквою, якую яна заўсёды ўсяляк падтрымлівала». Як прыклад такой падтрымкі прадстаўнік Ватыкану прыгадаў каталіцкую арганізацыю *Kirche in Not*, якая за дзесяць апошніх гадоў ахвяравала на патрэбы РПЦ больш за 17 мільёнаў даляраў.

## Абрабавалі і зніклі

Больш за тры мільёны фунтаў стэрлінгаў скралі рабаўнікі ў лонданскім аэрапорце «Хітроў», перадае *РИА «Новости»*. У панядзелак раніцою ў аэрапорце «Хітроў» перапраўлялі буйную суму грошай з борта самалёта *British Airways* на тэрмінал. Грошы перавозілі ў невялікім фургоне, за рулём якога сядзеў кіроўца, і больш у машыне нікога не было.



Нечакана іншы аўтамабіль запыніў фургон. Двое незнаёмцаў запатрабавалі перацягнуць каштоўны груз.

Кіроўца фургону не быў узброены і не мог супраціўляцца. Як паведаміла паліцыя, нападнікі збілі і потым звязалі супрацоўніка аэрапорту. Перагрузіўшы скрадзеныя грошы ў свой аўтамабіль, злачынцы зніклі.

Падзеі разгарнуліся ў той зоне «Хітроў», праход у якую дазваляецца толькі пасля праверкі супрацоўнікаў аэрапорту і ўсіх пасажыраў цераз існыя сістэмы бяспекі.

Цяпер у аэрапорце «Хітроў» працуе спецгрупа Скотланд-Ярду па барацьбе з асабліва небяспечнымі злачынствамі. Паліцыя ўжо знайшла непадалёк ад аэрапорту спалены аўтамабіль, на якім уцякалі злачынцы. Ніякіх слядоў нападнікаў і скрадзеных грошай пакуль не знойдзена.

## Рыо-дэ-Жанейра. Карнавал у апагеі

У Бразіліі праходзіць адно з галоўных святаў – штогадовы карнавал.

Дзелавое жыццё ў Рыо амаль цалкам паралізавана. На вуліцы цяжка ўбачыць чалавека ў дзелавым гарнітуры. Але амаль на кожным рагу можна купіць маску Усамы бін Ладэна. На сёння ўжо прададзены дзесяткі тысяч экзэмпляраў. Амаль ва ўсіх буйных гарадах краіны прайшлі выступы школаў самбы, і карнавал увайшоў у кульмінацыйную фазу. У Рыо-дэ-Жанейра пачаліся парады школаў самбы вышэйшае лігі.



На галоўным «самбадроме» пройдуць выступы чатырнаццаці карнавальных камандаў. Кожнай з іх даецца 109 хвілін, каб прайсці, то бок пратанцаваць, 700-метровую дыстанцыю. За гэты час калона з трохчатырох тысяч чалавек і некалькіх рухомых, багата ўбраных карнавальных платформаў павінна раскрыць тэму свайго выступу і заразіць гледачоў вясёласцю. Варта сказаць, што кошт уваходнага білету на гэтае відовішча дасягае 1,5 тысячы даляраў.

Але сёлета карнавал больш выходзіць «на вуліцу, у народ». У адным толькі Рыо-дэ-Жанейра выступы самадзейных карнавальных калектываў праходзяць у 80 раёнах гораду, што нашмат больш, чым у мінулыя гады. Адна з самых славутых вулічных імпрэзаў – «Падпаха Хрыста», якая праводзіцца пад статуяй Сына Божага з распасцертымі рукамі, збірае да 20 тысяч чалавек.

Цікавую навіну ўявіла бразільская тэлефонная кампанія ў сталіцы краіны. У час карнавалу паслухаць самбу можна з любога вулічнага тэлефона-аўтамата. Трэба толькі набраць адмысловы нумар і дадаць код выбранай школы самбы. Усе гэтыя спевы і скокі сур'ёзна дапамагаюць бразільскай казне. Летась карнавальныя ўрачыстасці прынеслі ў бюджэт 220 мільёнаў даляраў. Яшчэ два дні будзе працягвацца вяселле пад імпэтныя рытмы самбы.

# Тэленачынне

Беларускае навукова-вытворчае аб'яднанне «Інтэграл» распрацавала і цяпер асвойвае масавую вытворчасць інтэгральных мікрасхем для тэлевізійных прыёмнікаў 7-га пакалення на базе ЗВІС (звышвялікая інтэгральная схема) ILA8842. Начальнік аддзелу ўпраўлення маркетынгу «Інтэграла» Юрый Шэлег паведаміў, што створаны спецыялістамі камплект тэлевізійных мікрасхем «практычна поўны», не хапае толькі адной схемы – кантролера кіравання тэлевізарам.

Гэты чып не толькі забяспечвае кіраванне, але і ўтрымлівае ўбудаваны тэлетэкст. Мікрасхема – «аб'ёмная па сваім апаратным утрыманні і насычаная функцыянальна», таму вырабляецца па субмікроннай тэхналогіі (0,35 мкм з 3-4 узроўнямі разводкі). Паводле слоў Шэлега, на «Інтэграле» пакуль не асвоена тэхналогія з такімі праектнымі нормамі, але «мы над гэтым працуем».

Спажыўцы прадукцыі «Інтэграла» – прадпрыемствы «Гарызонт», «Віцязь», расійскія заводы – арыентаваныя на канцэпцыю карпарацыі «Філіпс», 7-е пакаленне тэлевізійных прыёмнікаў якой утрымлівае некалькі інтэгральных схем, якія забяспечваюць апрацоўку гуку, відэасігналаў у розных сістэмах – *PAL, Secam, NTSC.*

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# Відэагульні небяспечныя для дзяцей

Адзін з найпрацэйшых спосабаў, каб «прывязаць» дзіця да дому, як вядома, – купіць яму якую-небудзь электронную цацку. Але гэты метад зусім не бяспечны для фармавання арганізму дзіцяці, папярэджваюць спецыялісты Нацыянальнага аўтаномнага ўніверсітэту Мексікі (УНАМ).

Нягледзячы на шырокі камерцыйны поспех самых «прасунутых» цацак, іх уплыў на паводзіны дзіцяці дагэтуль не вывучаны, паведаміла журналістам кіраўніца цэнтру па даследаванні дзіцячай псіхікі УНАМ лекар-педыятр Марыя Расалес. А разам з тым, як паказалі назіранні, праведзеныя навуковым цэнтрам, пасля працяглага сядзення перад тэлевізарам або маніторам дзеці робяцца больш агрэсіўныя, бо звыш 90% відэагульняў, якія можна купіць у Мексіцы літаральна ў кожнай краме дзіцячых тавараў, змяшчаюць элементы гвалту. Частае мільганне выявы і змена гукавых эфектаў прыводзяць да пагаршэння зроку і слыху. З-за няправільнай паставы адбываецца выкрыўленне хрыбетніку дзіцяці, а адсутнасць руху прыводзіць да лішняй вагі, што можа стаць прычынай шэрагу хваробаў. Эмацыйнае напружанне і стрэсы, якія перажываюць гульцы пры бясконцых сцэнах гвалту і гібелі улюбёных персанажаў у змаганні са «страшылкамі», прыводзяць да падвышэння артэрыяльнага ціску.

**Мікалай ПАСКА**

# Турчанкам дазволілі хадзіць на працу ў штанах

Перамогай завершылася акцыя прафсаюзаў турэцкіх дзяржаўных службоўцаў, якія доўга дабіваліся скасавання забароны для жанчын насіць штаны ў працоўны час.

Па распараджэнні ўраду Турцыі, падрыхтаваным па асабістым загадзе прэм'ер-міністра Бюлента Эджэвіта, прадстаўніцы прыгожага полу «адноўлены ў правах». Праўда, чаму яны былі іх пазбаўленыя цягам многіх гадоў, ніхто, у тым ліку і галава ўраду, толкам патлумачыць не можа.

Гэтую пастанову, якая забараняла чыноўніцам дзяржустановаў краіны насіць штаны, прынялі ў 1982 годзе, неўзабаве пасля апошняга ваеннага перавароту. Згодна з тым дакументам, на працу таксама нельга прыходзіць у «адкрытых блузках і сукенках, у адзенні, якое прыцягвае ўвагу», у туфлях на высокіх абцасах, а таксама забаранялася пакрываць галаву традыцыйнай мусульманскай хусткай, якая ўва ўладаў і ўплывовых вайскоўцаў асацыюецца з фундаменталісцкімі сіламі.

Жанчыны, за якімі з прынцыпам у канцы мінулага году новага Грамадзянскага кодэксу Турцыі прызнаюцца роўныя з мужчынамі правы, цяпер могуць смела патрабаваць скасавання яшчэ аднаго палажэння ўрадавай пастановы. Яно вызначае даўжыню спадніцы і забараняе разрэзы на ёй.

**Андрэй ПАЛАРЫЯ**

# Піць трэба ў меру

Пытанне пра шкоду і карысць алкаголю для здароўя чалавека нязменна выклікае вялікую цікавасць, асабліва ў тых, хто шукае апраўдання сваёй цязі да спіртнога.

І вось навукоўцы зноў падлілі алею ў агонь! Апошняе даследаванне на гэтую тэму з удзелам 8 тысячаў чалавек дадало аргументаў на карысць памяркоўнага піцця.

Вынікі працы галандскіх вучоных, апублікаваныя ў брытанскім медыцынскім часопісе «Ланцэт», сведчаць: штодзённае спажыванне невялікай колькасці алкаголю значна зніжае рызыку развіцця ў сталым веку хваробы Альцгеймера ды іншых разумовых адхіленняў. Асабліва гэты сродак эфектыўны для людзей, чый век перасягнуў 55 гадоў і якія найбольш схільны да парушэнняў мазгавой дзейнасці.

Памяркоўнае спажыванне алкаголю спрые выпрацоўцы ў арганізме адмысловага пратэіну, які адказвае за актыўную працу клетак мозгу, лепшае засваенне інфармацыі, памяць і ўвагу. Аднак у той жа час, адзначаюць навукоўцы, вялікая колькасць алкаголю звычайна правакуе адваротную рэакцыю і можа зашкодзіць выдзяленню неабходнага мозгу рэчыва.

Апроч таго, даследаванне таксама пацвердзіла, што невялікія порцыі спіртнога становяцца ўплываюць на ўзровень халестэрыну ў крыві, прадухіляюць утварэнне тромбаў у сасудах і зніжаюць рызыку сардэчных прыпадкаў.

**Наталля ЯРАШЭНКА**

# Чарговы рэкорд Галівуду

*У мінулым годзе Галівуд паставіў чарговы рэкорд па касавых зборах. Іх сума ў амерыканскіх кінатэатрах склала 8,35 мільярда даляраў, што перавышае рэкордны паказнік 2000 году – 7,7 мільярда даляраў.*



Нават прымаючы пад увагу той факт, што цана квітка ў кіно вырасла ў мінулым годзе на 4%, нельга не адзначыць, што свой уклад у фармаванне гэтага рэкорднага паказчыка ўнесла і павелічэнне на 5% колькасці наведнікаў кінатэатраў у першы год трэцяга тысячагоддзя. Рэкордная колькасць стужак у 2001 годзе зарабіла больш як 200 мільёнаў даляраў. Гэта такія карціны, як «Гары Потэр», «Шрэк», «Карпацыя монстраў», «Мумія вяртаецца», «Гадзіна-пік–2», і, паводле ўсіх прагнозаў, да іх у найбліжэйшы час далучыцца «Уладар кольцаў».

Як падкрэсліваюць спецыялісты, 2001 год – час адраджэння кінафільмаў, якія адразу пасля першага выхаду на экраны стаюцца агульнапрызнанымі і найвыгаднейшымі праектамі. Так, для такіх карцін, як «Гары Потэр і чароўны камень» і «Уладар кольцаў: таварыства кольца», ужо здымаюць працягі, і ў найбліжэйшыя два гады гледачы ўсіх краін свету змогуць азнаёміцца з наступнымі часткамі гэтых фільмаў. Больш за тое, па прагнозах, новыя серыі «Гары Потэра» будуць цяпер выходзіць практычна штогод, ва ўсякім разе, да той пары, пакуль не экранізуюць усе сем частак гэтай кнігі. Здымаецца ўжо сёння і працяг «Шрэка», а таксама – другія серыі камедый «Дзеці шпіёнаў» і «Бландзінка ў законе».

Дарэчы, і мінулы год прапанаваў гледачам ладную порцыю фільмаў-працягаў. Дастаткова ўзгадаць кінастужкі «Мумія вяртаецца», «Парк Юрскага перыяду–3», «Амерыканскі пірог–2», не кажучы ўжо пра «Ганібал» – новую частку нашумелага дзесяць гадоў таму «Маўчання ягнятаў». Вядома ж, не ўсім працягам пашчасціла: так, камедыя «Вельмі страшнае кіно–2» змагла сабраць у кінатэатрах Паўночнай Амерыкі толькі палову ад тых 157 мільёнаў, што зарабіла першая серыя фільма.

Выхад на экраны многіх карцін адклалі пасля трагічных падзей 11 верасня, у прыватнасці, чарговы баявік з удзелам Арнольда Шварцэнегера «Спадарожныя страты» і камедыю Ціма Алена «Вялікія клопаты», у якой дзеянне разгортваецца вакол ядравага зараду, які восьвось выбухне. Абедзве карціны пакуль яшчэ не выйшлі на экраны. Зрэшты, амерыканскія гледачы паказалі, што яны ўжо падрыхтаваныя зноў успрымаць трылеры і баевікі, доказам таму сталіся вельмі нeблагія паказнікі такіх фільмаў, як «Дзень трэніроўкі», «Не кажы ні слова» і «Гульні ў шпіёнаў».

Не апраўдалі ўскладзеных на іх надзеяў «Планета малпаў», «Перл-Харбар» і «Лара Крофт – рабавальніца грабніц». Кожны з гэтых фільмаў няблага праявіў сябе ў першы ўік-энд пасля выхаду на экраны, а затым касавыя зборы рэзка пайшлі ўніз.

Ну, а што чакаць гледачам у гэтым годзе? Нямала ўсяго. Да прыкладу, працягаў не толькі «Гары Потэра» і «Уладара кольцаў», але і «Зорных войнаў», «Зорнага шляху», «Маленькага Сцюарта» і «Дзяцей шпіёнаў». Плануецца выхад чарговых карцін пра змагароў за дабрабыт цывілізацыі «Людзей у чорным», пра касмічнага супершпіёна «Остына Паўэрса» і, як заўсёды, шыкоўнага Джэймса Бонда.

Дарэчы, гэта будзе ўжо 20-ы па ліку фільм пра непераможнага «агента 007». А пачатак працы над карцінай супадае з 40-годдзем выхаду на сусветныя экраны першай стужкі серыі – «Доктар Не».

Акторскі склад фільма ўжо аб'яўлены. У ролі Джэймса Бонда будзе заняты Пірс Броснан. Гэта ўжо чацвёртая работа ў серыяле ірландскага актора, які, па яго ж словах, усё жыццё марыў з'явіцца ў амплуа «агента 007». У фільме будуць захаваны ўсе традыцыйныя атрыбуты серыялу – прыгожыя дзяўчаты, пагоні на шыкоўных аўто, феерычныя краявіды і рамантычныя сцэны. Паводле сцэнарыя дзеянне будзе праходзіць у Карэі, Ганконгу, на Кубе і, натуральна, у Лондане.

**Аляксей АГУРЭЕЎ**

# Універсітэцкая навука і прадпрымальніцтва

**Джон ЗІМАН, прафесар фізікі Брыстальскага ўніверсітэту**

*Па ўсім свеце навукоўцаў усё больш непакоіць рост уплыву камерцыйных арганізацыяў на навуковыя даследаванні, якія праводзяцца ў мурах універсітэтаў. Навукоўцы разумеюць, што адкрытыя фінансавыя стасункі з прыватным сектарам могуць пашкодзіць іх рэпутацыі сумленных і незалежных экспертаў.*

Тым не менш нябачныя дзверы, якія традыцыйна раздзялялі вышэйшыя вучэльні і прамысловы сектар, пачынаюць пакрысе прачыняцца, а часам іх увогуле зрываюць з завесаў. Падманлівыя, хоць на выгляд і праўдападобныя, дактрыны свабоднага рынку абясцэньваюць і навуковую дзейнасць, скіраваную на дабро грамадства, і вольную плынь абгрунтаваных крытычных развагаў, надзвычай важных для адкрытага даследавання, – усё тое, што гэтыя дзверы некалі баранілі.

Вядома, любому навукоўцу трэба грошы, каб весці даследаванні, і чым болей добрых вучоных, тым лепш для любой дзяржавы. Але добрая навука каштуе дорага, дык навошта быць лішне пераборлівым, калі вядомая паважаная кампанія гатова плаціць за яе?

Прамысловыя даследаванні вельмі каштоўныя як для грамадства, так і для пашырэння і развіцця навуковых ведаў. Але камерцыйныя фірмы – не дабрачынныя арганізацыі. Яны знаходзяцца пад няспынным напружаннем ува ўмовах жорсткай канкурэнцыі, бо іх акцыянеры хочуць атрымліваць прыбытак ад сваіх капіталаўкладанняў.

У большасці галін універсітэцкіх даследаванняў непасрэдны знешні ўплыў – ваенны, палітычны, а таксама камерцыйны – рэч трывіяльная. Аднак сярод выпадкаў фальсіфікацыі, якія выклікаюць неспакой, здараюцца факты непасрэднага ціску з боку крыніц фінансавання. У некаторых галінах навукі нялёгка бывае знайсці навукоўца, які так ці інакш не залежаў бы ад падтрымкі з боку прамысловых карпарацыяў.

Давесці, што вынікі карысныя і таму выгадныя, – рэч першаступеннай важнасці ў любым даследаванні. Нават урады цяпер фінансуюць навуку толькі ў абмен на абяцанне грамадскай выгады.

Тым не менш універсітэцкая навука адыгрывае важную «не інструментальную» ролю ў жыцці грамадства. Яна ўзбагачае нас духоўна – дакладнымі ведамі пра свет і чалавецтва. Яна папярэджвае нас пра схаваныя ад нашых вачэй экалагічныя небяспекі і адкрывае новыя напрамкі на шляху тэхнічнага прагрэсу. Яна ўносіць элемент рэалістычнай крытычнай рацыянальнасці ў грамадскую дыскусію і спрые ўнясенню долі сумнення, а таксама пераменаў у прафесійную адукацыю кваліфікаваных спецыялістаў. Словам, можна сказаць, што універсітэцкія даследаванні – асноўны інтэлектуальны патэнцыял грамадзянскай супольнасці.

Часта маркуюць, што навука здатная выконваць гэтыя функцыі, бо яна мае рацыянальны і аб'ектыўны характар. На жаль, такая думка не падмацавана ні сур'ёзным філасофскім аналізам, ні сацыялагічнымі назіраннямі. Насамрэч жа навуковыя веды надзейныя і вартыя даверу таму, што здабываюцца яны ў адкрытым, творчым, самакрытычным, бескарыслівым працэсе калектыўнымі намаганнямі. Якраз дзякуючы гэтым інстытуцыйным характарыстыкам навуковыя доследы і заваёўваюць наш давер, які грунтуецца на ранейшым станоўчым досведзе.

Вядома ж, фінансаванне навукі выклікае шмат палітычных і эканамічных праблем. Напрыклад, як можа ўрад апраўдаць выдаткі грамадскіх сродкаў на такія зусім «бескарысныя» галіны навукі, як фізіка элементарных часціц і астраномія? Аднак гэтыя праблемы не вырашаюцца шляхам перадачы іх «рынкавым сілам». У высока камерцыялізаваных галінах, такіх, як біямедыцына, зліццё грамадскай і прыватнай навукі выклікае найбольшы неспакой. Якраз тут грамадству найбольш патрабуюцца надзейныя навуковыя веды і аб'ектыўная экспертная ацэнка.

Модны цяпер заклік да яшчэ шчыльнейшага саюзу паміж універсітэтамі, прамысловасцю і ўрадам ігнаруе жыццёва важны элемент навуковай вытворчасці. У кожным з гэтых сектараў сістэма даследаў будзе зменена і перайтворана згодна з чаканымі вынікамі. Але вучоныя ўва ўсіх трох сектарах павінны адкрыта змагацца супраць зменаў, якія не прызнаюць, не вітаюць і не падтрымліваюць «грамадскую навуку» ў адкрытым плюралістычным грамадстве.

© **Project Syndicate, люты 2001**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1121 Нумар падпісаны ў друк 12/02/2002 (15:00) Наклад – 7.950